# ЛЕНІНСКІМ КУРСАМ ДА ПЕРАМОГІ КАМУНІЗМА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

выпускаюць з-пад увагі галоўнае, а іменна, што камуністычнае размеркаванне прадугледжвае вышэйшы ўзровень развіцця прадукцыйных сіл і пераўтварэнне працы ў першую жыццёвую патрэбу.

Да надыходу такога моманту, падкрэсліваў Ул. І. Ленін, неабходны найстражэйшы кантроль з боку грамадства за мерай працы і мерай спажывання.

Наша партыя—партыя навуковага камунізма. Яна выстаўляе і вырашае новыя задачы не наўдачу, а ў меру падрыхтоўкі і паспявання матэрыяльных і духоўных прадумоў, рашуча выступаючы і супраць «таптання» на месцы і супраць «лявацкага» забягання наперад. Заўчаснае ўвядзенне размеркавання па патрэбнасцях прывяло б да ўраўнілаўкі, да замаруджвання тэмпаў будаўніцтва камуністычнага грамадства, да дыскрэдытацыі ідэй камунізма.

Ва ўмовах сацыялізма развіццё прамысловасці, уздым сельскай гаспадаркі не з'яўляюцца самамэтай, а служаць павышэнню дабрабыту людзей.

Нашы праціўнікі спрабуюць сцвярджаць, быццам у новай Праграме КПСС перавага аддаецца прамысловасці, развіццю прамысловасці дзеля самой прамысловасці. Не, адказваем мы, у нашай Праграме даецца ўсебаковае навуковае абгрунтаванне камунізма, на першы план выстаўляецца развіццё эканомікі, асабліва прамысловай вытворчасці, але галоўнае ў ёй зусім іншае: яна абвяшчае першынство чалавека!

Курс нашай партыі—ленінскі курс. Яна і ў далейшым будзе развіваць імклівымі тэмпамі прамысловасць, настойліва змагацца за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі, удасканальваць транспарт і сувязь, ствараць новыя гарады, заводы, фабрыкі, шахты, домны, электрастанцыі, арашальныя сістэмы, будаваць школы, бальніцы, клубы і жылыя дамы.

У імя чаго? У імя чалавека, для шчасця чалавека! Узброеныя новай Праграмай, партыя, яе Цэнтральны Камітэт на чале з выдатным, верным ленінцам М. С. Хрушчовым упэўнена вядуць савецкі народ ленінскім курсам да перамогі камунізма.

## III.

## ВЫХАВАННЕ НОВАГА ЧАЛАВЕКА

Будаўніцтва камунізма — складаны працэс. Бо ён азначае перабудову ўсяго грамадскага арганізма, яго эканомікі, усіх чалавечых узаемаадносін, быту, светапогляду людзей. Вось чаму партыя надае такую вялікую ўвагу фарміраванню камуністычных грамадскіх адносін.

Узяць, напрыклад, развіццё сацыялістычнай дзяржаўнасці ў камуністычнае грамадскае самакіраванне. Дасягнутыя тут поспехі ў першую чаргу тлумачацца тым, што партыя строга кіруецца ленінскімі ўказаннямі аб важнасці ўсебаковага развіцця сацыялістычнай дэмакратыі, прыцягнення ўсіх грамадзян да кіравання справамі грамадства.

Кожны савецкі чалавек павінен стаць актыўным удзельнікам у кіраванні справамі грамадства! — вось наш лозунг, наша задача.

Дзе ж людзі вучацца кіраваць грамадствам? Ці ёсць такі універсітэт, такая школа, дзе прышчаплялі б навыкі грамадскай, дзяржаўнай, палітычнай работы?

Так, такая школа ёсць. Гэта, перш за ўсё, наша вялікая партыя; гэта—Саветы; гэта—прафсаюзы, камсамол, усе нашы грамадскія арганізацыі. Нельга навучыцца кіраваць дзяржавай, не прымаючы актыўнага ўдзелу ў дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. Як з кропель утвараюцца моры і акіяны, так і са штодзённай, часта малапрыкметнай, будзённай работы кожнага складваецца жыццё і дзейнасць нашага грамадскага арганізма, кіраванне ім.

Ледзь не самую цяжкую і адказную задачу камуністычнага пераўтварэння свету складае выхаванне новага чалавека.

Ул. І. Ленін не раз падкрэсліваў усю складанасць гэтай задачы. Будаваць камунізм, гаварыў ён, прыйдзецца не «з разведзеных у асобных парніках і цяпліцах асоба дабрачынных людзей», а «з масавага чалавечага матэрыялу, сапсаванага стагоддзямі і тысячагоддзямі рабства, прыгонніцтва, капіталізму...» (Творы, том 28, стар. 365).

Ул. І. Ленін непахісна верыў, што такая задача пад сілу новаму грамадскаму ладу.

Новы лад існуе ў нашай краіне толькі некалькі дзесяцігоддзяў. Але на савецкай зямлі ўжо вырас, ўзняўся бачны з усіх куткоў зямнога шара чалавек новага складу, акрылены высакароднымі ідэямі камуністычнага пераўтварэння жыцця. Ратнымі подзвігамі і гераічнай працай, смеласцю і гуманізмам савецкія людзі заслужылі павагу і любоў народаў усяго свету. Высокая ідэйнасць савецкіх людзей, нашай выдатнай моладзі выклікае зайздрасць у ідэолагаў капіталізму. Іх палохае палітычны і культурны рост савецкага народа, яго адданасць камунізму.

Выхаванне новага чалавека—чалавека вялікіх ідэалаў і высокіх маральных прынцыпаў—адно з галоўных дасягненняў нашай партыі.

На XXII з'ездзе, у новай Праграме наша партыя выставіла пытанні камуністычнага выхавання ў цэнтр увагі і дзейнасці кожнай партыйнай арганізацыі, усёй грамадскасці. Важна актывізаваць, павысіць дзейснасць усіх сродкаў ідэйнага ўплыву партыі на масы. Як вялікае свята рыхтуюцца адзначыць савецкія людзі пяцідзесяцігоддзе ленінскай «Праўды» — вернага памочніка партыі ў камуністычным выхаванні працоўных.

Выхаванне новага чалавека—гэта барацьба, барацьба вострая і непрымірымая супраць перажыткаў мінулага ў свядомасці людзей, супраць разлагаючага ўплыву варожай буржуазнай ідэалогіі. Надзённыя інтарэсы гэтай барацьбы патрабуюць, каб аб палітыка-маральным стане калектываў працоўных праяўляліся такія ж клопаты, як і аб выкананні вытворчых планаў, каб выпадкі «маральнага браку» асуджаліся з такой жа вастрынёй, як і вытворчы брак.

Нельга скідваць з рахунку тую акалічнасць, што маральна-ідэалагічныя страты нярэдка каштуюць грамадству даражэй, чым страты вытворчыя.

Успомніце, якім непахісным і суровым станавіўся Уладзімір Ільіч, калі гутарка заходзіла аб барацьбе з такімі агіднымі перажыткамі старога свету, як спекуляцыя, хабарніцтва, хуліганства, крадзеж, хцівасць, бюракратызм! Непрымірымыя адносіны нашай партыі да ўсяго, што атручвае жыццё савецкім людзям, яе цвёрды намер скончыць з агіднымі перажыткамі мінулага з новай сілай прагучалі ў выдатнай прамове М. С. Хрушчова на XIV з'ездзе ВЛКСМ, прасякнутай глыбокай любоўю да савецкай моладзі, ленінскімі клопатамі аб яе выхаванні. Якімі б ні былі цяжкімі задачы выхавання новага чалавека,—яны паспяхова вырашаюцца нашай партыяй, усёй савецкай грамадскасцю.

Ул. І. Ленін пакінуў партыі запавет: «Перамагчы ўсё супраціўленне капіталістаў, не толькі ваеннае і палітычнае, але і ідэйнае, самае глыбокае і самае магутнае» (Творы, том 31, стар. 345).

Мы можам сказаць, што ленінскі запавет ажыццяўляецца і абавязкова будзе ажыццёўлены!

## IV.

## ГІСТОРЫЯ РАЗВІВАЕЦЦА ПА ЛЕНІНУ

Таварышы! Мінула каля паўстагоддзя з таго часу, як Уладзімір Ільіч Ленін сфармуляваў вывад найвялікшай навуковай і рэвалюцыйнай смеласці—вывад аб тым, што надышла новая паласа сусветнай гісторыі—эпоха гібелі капіталізму і трыумфу камунізма ва ўсім свеце.

Успомнім хоць бы коратка, якім быў свет у той час.

Над вялікай прасторай двух кантынентаў—Еўропы і Азіі—навіс змрочны цень двухгаловага арла імперыі Раманавых. Царызм лічыўся надзейнай апорай рэакцыі, ён толькі што задушыў рэвалюцыю 1905 года. Другі драпежнік — аднагаловы арол кайзераўскай Германіі—кідаў выклік сваім імперыялістычным сапернікам, якія захапілі самыя смачныя кавалкі каланіяльнай здабычы. Шматкоўвая Аўстра-Венгерская імперыя Габсбургаў падабрала пад сябе чэхаў, славакаў, венграў, паўднёвых славян. Дзялкі Лонданскага Сіці выхваляліся, што ў валоданнях брытанскай кароны ніколі не заходзіць сонца. Французскія банкіры стрыглі купоны, эксплуатуючы вялізарныя ўладанні ў Афрыцы і Азіі. На Далёкім Усходзе рвалася да захопаў імперыялістычная Японія. Злучаныя Штаты Амерыкі, якія паспелі ўжо на зыходзе XIX стагоддзя развязаць першую вайну эпохі імперыялізму, прагна збіралі багацці, будавалі далёка ідучыя планы захопу пануючых пазіцый у свеце.

У выніку — звыш дзвюх трэцей насельніцтва нашай планеты знаходзілася ў каланіяльных і залежных краінах, гібела ў голадзе і галечы, гінула ад непасільнай працы на сваіх прыгнятальнікаў. Імперыялісты грабілі і мучылі народ вялікага Кітая. У краінах Лацінскай Амерыкі гаспадарылі паўночнаамерыканскія і англійскія манаполіі.

Здавалася, нішто не пагражала магутнасці імперыялізму. Ён быў у зеніце, непадзельна панаваў на зямным шары, іграў лёсам соцень мільёнаў людзей.

І якую празорлівасць, якую веру ў сілу рабочага класа трэба было мець, каб у такіх умовах здолець не толькі ўбачыць блізкі пачатак канца імперыялізму, але і вызначыць важнейшыя рысы будучай эпохі сусветнай гісторыі! За мінулыя дзесяцігоддзі свет змяніўся больш, чым за папярэднія многія сотні гадоў. Збыліся і збываюцца самыя смелыя прадбачанні Ільіча. Гісторыя развіваецца так, як прадказвалі Маркс і Ленін.

Пад ударамі магутных рэвалюцыйных сіл непазнавальна змянілася сацыяльнае аблічча планеты.

Знікла з карты свету Расійская імперыя. На яе месцы ўзнікла і расквітнела магутная сацыялістычная дзяржава працоўных. Як картачны домік, рассыпалася Аўстра-Венгерская манархія. Многія народы, якія калісьці ўваходзілі ў яе састаў, паспяхова будуюць сацыялізм. Павярнула на шлях сацыялістычнага развіцця і мужна адстайвае інтарэсы міру ў цэнтры Еўропы значная частка нямецкага народа. Будуе сацыялізм вялікі кітайскі народ. Свае сацыялістычныя дзяржавы стварылі мангольскі, в'етнамскі, карэйскі народы.

Расце і шырыцца рэвалюцыйна-вызваленчы рух народаў. Індыя, Інданезія, ААР, Ірак, Гана, Гвінея, Малі і дзесяткі іншых краін Азіі і Афрыкі выйшлі на шлях самастойнага і незалежнага развіцця. З перамогай алжырскага народа па сутнасці спыняе існаванне Французская каланіяльная імперыя. І ніхто не сумняваецца, што ў бліжэйшым будучым яе лёс падзеліць і Брытанская каланіяльная імперыя або, больш правільна кажучы, тое, што ад яе засталося. Прайшоў свой зеніт амерыканскі імперыялізм.

Шлях да свабоды, дэмакратыі і сацыялізма, азароны ленінскім геніем, стаў прамой дарогай сусветнай гісторыі. Не буржуазія, а міжнародны рабочы клас, яго галоўнае дзецішча — сусветная сацыялістычная сістэма знаходзяцца ў цэнтры сучаснай эпохі.

Калі каму-небудзь патрэбны яшчэ доказы вялікай жыццёвай сілы ленінізма, то няхай паглядзіць на змены, якія адбыліся ў свеце пасля кастрычніка 1917 года. Гэта і ёсць ленінская тэорыя сацыялістычнай рэвалюцыі ў дзеянні.

Сусветная сістэма сацыялізма, якая процістаіць імперыялізму, няўхільна ўмацоўваецца, згуртоўваецца, робіць усё больш актыўны ўплыў на ход і зыход міжнародных падзей. У рамках сусветнай сацыялістычнай сістэмы склаўся новы тып міжнародных адносін, заснаваны на прынцыпах пралетарскага інтэрнацыяналізму, брацкай дружбы і ўзаемадапамогі.

Ул. І. Ленін выявіў і навукова абгрунтаваў заканамернасць глыбокай унутранай сувязі паміж барацьбой рабочага класа за сацыялізм і нацыянальна-вызваленчай барацьбой прыгнечаных народаў. «...Сацыялістычная рэвалюцыя,—вучыў ён,—не будзе толькі і галоўным чынам барацьбой рэвалюцыйных пралетарыяў у кожнай краіне супраць сваёй буржуазіі,—не, яна будзе барацьбой усіх прыгнечаных імперыялізмам калоній і краін, усіх залежных краін супраць міжнароднага імперыялізму». (Творы том 30, стар. 138).

Якое бліскучае пацвярджэнне атрымліваюць ленінскія ідэі ў нашы дні, калі канчаткова развальваецца каланіяльная сістэма імперыялізму!

Адзін з важнейшых урокаў апошніх дзесяцігоддзяў заключаецца ў тым, што сілы нацыянальна-вызваленчых рэвалюцый дзейнічаюць тым больш паспяхова, чым больш трывала і больш шырока яны абапіраюцца на сілы пераможнага сацыялізма. Не выпадковы, зразумела, той факт, што нацыянальна-вызваленчыя рэвалюцыі набылі такі размах і ўвенчваюцца такім поспехам іменна ў перыяд, калі сацыялізм стаў галоўнай сілай сусветнага развіцця.

Ідэолагі імперыялізму спрабуюць паказаць дружбу сацыялістычных краін з маладымі суверэннымі дзяржавамі як «камуністычныя падкопы».

Што можна сказаць наконт гэтага?

Справа тут, зразумела, не ў «камуністычных падкопах». У свеце склалася, шырыцца і мацнее вялікая антыімперыялістычная кааліцыя народаў. Своеасаблівасць яе заключаецца ў тым, што яна не мае фармальна-юрыдычнага характару, не зарэгістравана ні ў аднаго натарыуса, але затое змацавана глыбокім унутраным адзінствам, у аснове якога ляжыць імкненне пазбавіць чалавецтва ад ганебнай і злачыннай сістэмы імперыялізму.

Толькі чвэрць стагоддзя назад імперыялізму не было вельмі цяжка задушыць не толькі кожную спробу народа скінуць са сваіх плеч каланіяльнае ярмо, але нават самую думку аб такім вызваленні.

Цяпер зусім іншая абстаноўка. Імперыялістычныя манаполіі ўжо не ў сілах перашкодзіць руху народаў да нацыянальнага вызвалення, да сацыялізма. «Агню ў паперу не загорнеш»,— гавораць у народзе. Некаторыя характэрныя рысы і асаблівасці ўсёй цяперашняй сусветнай сітуацыі знайшлі сваё ўвасабленне ў кароткім, толькі ў чатыры літары, слове. І гэта слова—Куба, першая свабодная тэрыторыя Амерыкі, краіна, якая стала на шлях будаўніцтва сацыялізма. **(Апладысменты).** Перад невялікім народам, які ўзняўся на барацьбу за свабоду, прыйшлося адступіць самай магутнай імперыялістычнай дзяржаве. Такі сімвал нашай эпохі!

Магутны размах вызваленчага руху падрывае асновы імперыялізму, паскарае яго канец.

У свой час вобразна гаварылі, што калі галава імперыялізму знаходзіцца ў Еўропе, то яго жывот спачывае на тлустых палях Азіі і Афрыкі. Цяпер імперыялізму няма спакою ні ў Азіі, ні ў Афрыцы, ні ў якой іншай частцы свету. Настаў такі гістарычны момант, калі імперыялізм не можа больш набіваць сваё ненаеднае чэрава за кошт эксплуатацыі народаў слабаразвітых краін. Народы не хочуць быць простымі аб'ектамі гісторыі, яны хочуць свядома тварыць яе, узяць свой лёс ва ўласныя рукі.

Наша партыя свята кіруецца ленінскім запаветам:

«Мы заўсёды стаялі, стаім і будзем стаяць за самае цеснае збліжэнне і зліццё свядомых рабочых перадавых краін з рабочымі, сялянамі, рабамі ўсіх прыгнечаных краін. Мы заўсёды раілі і заўсёды будзем раіць усім прыгнечаным класам усіх прыгнечаных краін, калоній, у тым ліку, не аддзяляцца ад нас, а як мага цясней збліжацца і зліваццца з намі». (Творы, том 23, стар. 55).

На чале вызваленчай барацьбы народаў ідуць марксісцка-ленінскія партыі.

Сусветны камуністычны рух стаў цяпер самай уплывовай палітычнай сілай, якая пераўтварае і абнаўляе свет. Асноўная крыніца поспехаў сарака-мільённай арміі камуністаў усіх краін—ленінская стратэгія і тактыка, ленінскае адзінства радоў, ленінская сувязь з народнымі масамі. Сваёй мужнай барацьбой за інтарэсы працоўнага народа, звязанай у многіх краінах капіталу з жорсткімі рэпрэсіямі з боку кіруючых колаў, камуністы заваявалі глыбокую павагу ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Рост магутнасці сусветнага сацыялізма, распад каланіяльнай сістэмы імперыялізму, абвастрэнне ўсіх яго супярэчнасцей—рашаючыя фактары паглыблення агульнага крызісу капіталістычнай сістэмы. У капіталізма ёсць мінулае, але ў яго няма будучыні. Будучыня належыць камунізму. **(Апладысменты).**

Працэс крызісу ахапіў усе сферы жыцця буржуазнага грамадства: эканоміку, палітыку, ідэалогію.

Шматлікія праекты выратавання капіталізму, якія, як правіла, абвяшчаюцца з вялікай помпай і выдаюцца за новае слова, у сапраўднасці толькі яшчэ і яшчэ раз выяўляюць яго гістарычную асуджанасць. Возьмем, напрыклад, модныя ў апошні час планы так званай «інтэграцыі» Еўропы — стварэнне «агульнага рынку», «зоны свабоднага гандлю» і іншых міжнародных дзяржаўна-манапалістычных аб'яднанняў.

Чым з'яўляюцца на справе ўсе гэтыя саюзы і аб'яднанні?

Па сутнасці, гутарка ідзе аб новых формах перадзелу сусветнага капіталістычнага рынку, аб новых агрэсіўных антынародных саюзах, якія накіраваны супраць жыццёвых інтарэсаў працоўных краін капіталу, супраць сацыялістычнага лагера і нацыянальна-вызваленчага руху. «Інтэграваная Еўропа»—усяго толькі новы клубок вастрэйшых антаганізмаў: паміж самімі яе ўдзельнікамі, паміж еўрапейскімі дзяржавамі і Злучанымі Штатамі Амерыкі, паміж манапалістычнымі завадатарамі і шырокімі народнымі масамі, паміж імперыялістычнымі манаполіямі і краінамі, якія скінулі каланіяльнае ярмо.

А ўгледзьцеся больш уважліва ў тое, што робіцца з буржуазнай дэмакратыяй?

Сучасны капіталізм баіцца ж нават уласных канстытуцый. Калісьці ідэолагі капіталізму да нябёсаў выхвалялі «свабоды», якія быццам бы дорыць буржуазная дэмакратыя працоўным. А якімі свабодамі яны могуць пахваліцца цяпер? Магчыма, фактам ганебнага праследавання Камуністычнай партыі ЗША?!

Нядаўна амерыканскаму сенатару Мундту прыйшла ў галаву думка радыёфікаваць высечаныя ў Скалістых гарах Паўднёвай Дакоты гіганцкія каменныя бюсты былых прэзідэнтаў ЗША, каб статуі перадавалі на радасць турыстам і на карысць «амерыканскай дэмакратыі» калісьці сказаныя імі прамовы аб дэмакратыі. На думку сенатара, такая аперацыя магла б адыграць сваю ролю ў рэкламе амерыканскага спосабу жыцця.

На жаль, наватарства сенатара не было ацэнена. Наадварот, яго назвалі сляпым і фантазёрам.

Газета «Крысчэн сайенс monітар» адкрыта тлумачыла, што красамоўнае маўчанне былых прэзідэнтаў у цяперашняй абстаноўцы куды больш пажаданае. Бо ў выпадку прыняцця гэтага праекта каменныя статуі пачнуць гаварыць такія прамовы, за якія ў сучаснай Амерыцы праславішся «чырвоным». Хіба маглі б кіруючыя колы ЗША сцярпець, каб, напрыклад, бюст Лінкольна бесперапынна гаварыў такія «крамольныя» словы: «Заправілы грошай будуць спрабаваць умацаваць сваю ўладу на шкоду народу, пакуль усе багацці не сканцэнтруюцца ў руках нямногіх і рэспубліка не будзе падарвана».

Вядома, не сцярпелі б.

Французскаму каралю Людовіку XV належыць вядомы афарызм «пасля нас хоць патоп». Ахоплены трывогай за сваю будучыню, клас капіталістаў не можа суцяшаць сябе нават такімі словамі, бо для яго «патоп» ужо настаў.

Праўда, сучасныя абаронцы імперыялізму спрабуюць пераканаць людзей, ды, бадай, і саміх сябе, у тым, што капіталізм, маўляў, яшчэ «пакажа свае патэнцыі». Яны любяць успамінаць аб часах, калі буржуазія была маладым, узыходзячым класам. Але калі ўжо і гаварыць аб гістарычных аналогіях, то куды больш апраўданым было б параўнанне цяперашняй стадыі развіцця капіталізму, скажам, з апошнімі фазамі рабаўладальніцкага грамадства. Як паўстанні рабоў, разлажэнне сістэмы рабаўладання з'явілася прадвеснікам гібелі Рымскай імперыі, так і магутны росквіт сусветнай сістэмы сацыялізма, нарастанне класавых баёў пралетарыяту, крах каланіяльнай сістэмы ясна ўказваюць, што імперыялізм ідзе да сваёй непазбежнай гібелі.

Няма такіх сродкаў, якія маглі б выратаваць капіталізм. Іх няма ў прыродзе і іх нельга выдумаць. Гэта не хвароба, якую можна вылечыць, а памірание. Ва ўрачоў ёсць тэрмін «гіпакратаў твар». Так называюць твар уміраючага, рысы якога ўказваюць спецыялісту на тое, што смерць немінучая, што медыцына, як кажуць, бяссільная.

Мы наглядаем цяпер «гіпакратаў твар» капіталізму.

Страх перад заўтрашнім днём аб'ядноўвае ў антыкамуністычным паходзе рэакцыянераў усяго свету—фашыствуючыя элементы і ліберальнічаючых палітыканаў, рэакцыйныя сілы царкоўнікаў і лідэраў правых прафсаюзаў, усіх сучасных наследнікаў Метэрніха і эпігонаў Гізо.

Імперыялізм застаецца самым злосным і вельмі небяспечным ворагам свабоды і незалежнасці народаў. Яго прырода, яго звычкі не змяніліся. Як любы клас, які сыходзіць з гістарычнай арэны, сучасная імперыялістычная буржуазія апошняй пераконваецца ў сваім фатальным лёсе. Яна сутаргава чапляецца за ўладу, можа пайсці на самыя адчайныя правакацыі, аж да атамна-вадароднай вайны. Але драпежнік, які да таго ж не раз апякаўся, заўсёды адступае, калі бачыць перад сабой вялікую сілу. Цяпер такая сіла ёсць. Яна можа ўтаймаваць усякага імперыялістычнага драпежніка.

Гэта сіла — вялікі Савецкі Саюз, уся сусветная сацыялістычная сістэма, міжнародны рабочы рух, нацыянальна-вызваленчая барацьба народаў. **(Апладысменты).**

З узнікненнем Савецкай рэспублікі палітыка барацьбы за мір упершыню стала дзяржаўнай палітыкай. Выставіўшы прынцып мірнага суіснавання, Ул. І. Ленін геніяльна прадвызначыў самую сутнасць сацыялістычнай знешняй палітыкі на цэлую гістарычную эпоху. Іменна дзякуючы міралюбівай ленінскай палітыцы нашай дзяржавы, усіх сацыялістычных краін чалавецтва да гэтага часу пазбаўлена ад сусветнай тэрмаядзернай катастрофы.

У свядомасці сучаснага чалавецтва паняцці мір і сацыялізм трывала сцэментаваны разам. І, наадварот, паняцці капіталізм і вайна даўно ўжо сталі сінонімамі.

Дзве лініі ў сусветнай палітыцы асабліва выразна відаць у процілеглым падыходзе да цэнтральнай праблемы міжнародных адносін — праблемы ўзбраення. Усякаму сумленнаму чалавеку, знаёмаму з сапраўдным становішчам рэчаў, кідаецца ў вочы двудушная пазіцыя заходніх дзяржаў, якія на працягу многіх гадоў заняты не вырашэннем пытання па сутнасці, а пошукамі найбольш хітрых спосабаў ашукання народаў.

Вуснамі М. С. Хрушчова наша партыя папярэджвае чалавецтва аб небяспецы, якую тоіць у сабе такая дэмагогія заходніх дыпламатаў, заклікае народы да высокай пільнасці. Да таго часу, пакуль імперыялісты працягваюць ваенныя падрыхтаванні, пакуль існуе пагроза ўсеагульнаму міру, Савецкі Саюз і іншыя краіны сацыялізма прымаюць і будуць прымаць меры да далейшага ўдасканальвання ўзброеных сіл, умацавання сваёй бяспекі.

Перамога ідэй камунізма, а значыць перамога справы міру, дружбы народаў — немінучая. Капіталізм сыдзе з гістарычнай сцэны, як сыходзілі ўсе эксплуататарскія фармацыі, якія існавалі да яго. Але народы хочуць, каб, гінучы, імперыялізм прынёс чалавецтву як мага менш пакут, каб пасля яго засталося як мага менш руін. Трывалы мір паміж народамі адпавядае карэнным інтарэсам працоўнага чалавецтва, забяспечвае найбольш спрыяльныя магчымасці для грамадскага прагрэсу, для барацьбы за камунізм і сацыялізм, для ліквідацыі каланіялізму і поўнай перамогі нацыянальна-вызваленчага руху.

У наш час камунізм стаў сапраўдным уладаром дум перадавога чалавецтва. Яго ідэі аб'ядноўваюць мільёны людзей, для якіх невыносная імперыялістычная хлусня і па душы праўда камунізма.

«Ці можна папракнуць веруючага хрысціяніна, — заявіў нядаўна французскі абат Булье, — за тое, што ён паважае камуністаў, якіх мільёны і якія кіруюцца вучэннем Леніна, паважае іх перакананне і ў захапленні ад іх велічнай стваральнай работы? Ці можна адмовіцца ад супрацоўніцтва з імі, калі яны імкнуцца выратаваць свет, пакласці канец халоднай вайне, калі яны патрабуюць раззбраення і заклікаюць да мірнага суіснавання дзяржаў з розным сацыяльным ладам? Калі ўсё гэта з'яўляецца «пракамунізмам», то я назаўсёды застануся «пракамуністам».

Так думаюць усе прагрэсіўныя людзі. **(Апладысменты).**

## V.

## СІЛА ТВОРЧАГА ЛЕНІНІЗМА

Таварышы! Вялікае вучэнне Маркса, Энгельса, Леніна нязменна застаецца маладым, самым жыццяздольным, самым плённым вучэннем. Асноўная крыніца творчай стваральнай сілы марксізма-ленінізма — яго глыбокая сувязь з жыццём.

Найбольш характэрныя рысы камуністычнага вучэння знайшлі сваё жывое ўвасабленне ў тэарэтычнай дзейнасці Уладзіміра Ільіча Леніна. Ад кожнага слова Ул. І. Леніна павявае гарачым дыханнем жыцця. Наватарства ляжала ў аснове ўсёй яго тэарэтычнай і практычнай дзейнасці.

Творчы, ленінскі падыход да рэвалюцыйнай тэорыі вызначае дзейнасць Цэнтральнага Камітэта нашай партыі.

Без паспяховага развіцця партыяй марксісцка-ленінскай навукі аб грамадстве былі б немагчымыя нашы сусветна-гістарычныя перамогі, мы не змаглі б зрабіць літаральна ніводнага кроку наперад у будаўніцтве камунізма.

Савецкія спадарожнікі і касмічныя караблі ўзнялі ўвышыню аўтарытэт не толькі прыродазнаўчых навук, але і рэвалюцыйнай навукі марксізма-ленінізма аб грамадстве.

Усім, хто хоча зразумець сілу творчага ленінізма, азнаёміцца з вышэйшым дасягненнем сучаснай грамадска-навуковай думкі, мы гаворым: чытайце і вывучайце новую партыйную Праграму. Кожная яе думка, увесь яе змест — гэта ленінізм у дзеянні, сведчанне высокай тэарэтычнай сталасці нашай партыі, яе авангарднай ролі ў творчым развіцці рэвалюцыйнай тэорыі.

Бессмяротнай заслугай Ул. І. Леніна з'яўляецца тое, што ён высока ўзняў сцяг барацьбы за чыстату творчага марксізма, супраць усіх форм і праяўленняў апартунізму. Наша партыя ў духу ленінскіх запаветаў, выконваючы свой інтэрнацыянальны абавязак перад міжнародным рабочым рухам, актыўна змагаецца як супраць рэвізіянізму, так і супраць дагматызму, у якіх бы формах яны ні праяўляліся.

Творчы марксізм-ленінізм—ідэйная аснова згуртаванасці сусветнага камуністычнага руху.

Няма ў свеце сілы, якая магла б устаяць перад напорам аб'яднанага рабочага класа, падтрыманага яго саюзнікамі ў барацьбе за мір, дэмакратыю, нацыянальную незалежнасць і сацыялізм. «Разрозненыя рабочыя — нішто. Аб'яднаныя рабочыя—усё»,— гаварыў Ул. І. Ленін. Камуністычная партыя Савецкага Саюза лічыць сваім абавязкам рабіць усё для згуртавання сацыялістычнага лагера, сусветнага камуністычнага руху пад сцягам пралетарскага інтэрнацыяналізму з яго натхнёным заклікам «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!».

Умацаванне адзінства рабочага класа, аб'яднанне ўсіх прагрэсіўных сіл грамадства адбываецца ў непрымірымай барацьбе супраць рэакцыйнай буржуазіі, супраць яе палітыкі і ідэалогіі.

Імперыялістычная буржуазія ўпарта шукае новых ідэй. На гэтай бясплённай ніве ў поце працуюць лепшыя розумы сучаснай буржуазнай думкі. І калі сёння мы ўсё часцей чуем самапрызнанні нашых праціўнікаў наконт таго, што буржуазія растрэсла на скрыжаваннях гістарычных дарог свае ранейшыя рэвалюцыйныя ідэі і не можа знайсці новых, то тут, як гаворыцца, пярэчыць не прыходзіцца. Галоўная прычына такога становішча не ў тым, што імперыялістычныя ідэолагі бяздарныя ад прыроды, а ў тым, што мэты і палітыка буржуазіі аказаліся ў прынцыповым невырашальным канфлікце з аб'ектыўным ходам і патрэбамі грамадскага прагрэсу.

Сучасная буржуазная ідэалогія ахоплена глыбокім крызісам, з якога няма і не можа быць выйсця, таму што па сваёй сутнасці яна стала адкрыта чалавеканенавісніцкай, рэакцыйнай.

Праўда, некаторыя буржуазныя дзеячы, нават тыя, што стаяць на чале дзяржаў, насуперак фактам, спрабуюць запэўніць, што «рух вялікай гісторыі» ідзе быццам бы ў спрыяльным для капіталізму напрамку і што будучыня ледзь што не абяцае перамогі «амерыканскай канцэпцыі сусветнага парадку».

Не, будучыня за камунізмам! Бо толькі ён адпавядае карэнным інтарэсам народных мас, якія выйшлі цяпер на арэну свядомай гістарычнай творчасці. У тым якраз і справа, што сапраўдная вялікая гісторыя ідзе ў нагу з народнымі масамі. Іменна яны і ніхто іншы ў самым непасрэдным, канкрэтным сэнсе твораць гісторыю.

Імем усяго чалавецтва «вялікая гісторыя» творыць цяпер справядлівы суд над капіталізмам, што аджывае свой век.

* * *

Таварышы!

Калі Ул. І. Ленін браўся за стварэнне нашай партыі, вялізарная большасць людзей на зямным шары не чула нават самога слова «камунізм». І толькі самыя празорлівыя, самыя мужныя, самыя праніклівыя і глыбокія розумы бачылі ў камунізме будучыню свету. І яны мелі рацыю. Спачатку дзесяткі і сотні, а затым тысячы і мільёны людзей, натхнёныя ідэямі камунізма, ішлі і ідуць, не шкадуючы жыцця, на штурм старога свету.

Цяпер камунізм стаў найвялікшай сілай, рэальным грамадствам, ствараемым на вялізарных прасторах зямнога шара.

У 1919 годзе на VIII з'ездзе партыі Уладзімір Ільіч гаварыў аб шчасці тых, хто бачыў перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая паклала пачатак увасабленню камунізма ў жыццё. Нам выпала шчасце быць будаўнікамі камунізма. Працоўныя ведаюць, што справа камуністычнага пераўтварэння нашай Радзімы, пачатая вялікім Леніным, пераможа, бо яна знаходзіцца ў надзейных руках ленінскай партыі камуністаў. **(Працяглыя апладысменты).**

Гісторыя данесла да нас чулівы, хвалюючы эпізод з апошніх дзён жыцця Уладзіміра Ільіча.

2 лістапада 1923 года хворага Ільіча наведала дэлегацыя рабочых Глухаўскай мануфактуры. Пасля сяброўскай, сардэчнай гутаркі надышоў час развітацца. Усе дэлегаты пацалаваліся з Ул. І. Леніным. Апошнім да яго падышоў стары рабочы Кузняцоў. Некалькі хвілін правадыр рэвалюцыі і патомны рабочы трымалі адзін аднаго ў абдымках. Стары Кузняцоў праз слёзы ўсё паўтараў:

— Я рабочы-каваль, Уладзімір Ільіч, я каваль, мы выкуем усё, што ты намеціў.

Сёння савецкія людзі, усё прагрэсіўнае чалавецтва маюць права сказаць, што яны куюць і абавязкова выкуюць паводле ленінскіх планаў цудоўную камуністычную будучыню для працаўнікоў зямлі. **(Працяглыя апладысменты).**

Няхай жыве Камуністычная партыя Савецкага Саюза—партыя Леніна, баявы авангард савецкага народа, партыя адважных барацьбітоў і наватараў! **(Працяглыя апладысменты).**

Няхай жыве ленінізм — пераможаносны сцяг нашай эпохі—эпохі трыумфу камунізма! **(Бурныя апладысменты).**

### Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР

### Аб прысваенні тав. Броўку П. У. ганаровага звання Народнага паэта Беларускай ССР

**За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і актыўную грамадска-палітычную дзейнасць прысвоіць тав. БРОЎКУ Пятру Усцінавічу ганаровае званне Народнага паэта Беларускай ССР.**

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. КАЗЛОЎ.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Д. ЛУКАШЭВІЧ.**

20 красавіка 1962 года
гор. Мінск.

### Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР

### Аб прысваенні тав. Лынькову М. Ц. ганаровага звання Народнага пісьменніка Беларускай ССР

**За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і актыўную грамадскую дзейнасць прысвоіць пісьменніку ЛЫНЬКОВУ Міхаілу Ціханавічу ганаровае званне Народнага пісьменніка Беларускай ССР.**

**Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. КАЗЛОЎ.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Д. ЛУКАШЭВІЧ.**

20 красавіка 1962 года
гор. Мінск.

